# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 1 (60)

Студзень 2012 г.

## Сяргея Каваленку пакаралі за “брыдкаслоўе”

Выгукамі “Ганьба!” сустрэлі прысутныя ў залі судовых паседжаньняў суду Першамайскага раёну Віцебску абвяшчэньне выраку па адміністрацыйнай справе Сяргея Каваленкі. 12 студзеня судзьдзя Вольга Іванова прызнала актывіста КХП БНФ вінаватым у зьдзяйсьненьні дробнага хуліганства і пакарала яго штрафам у памеры чатырох базавых велічынь.

Такі прысуд судзьдзя вынесла нягледзячы на тое, што падчас судовага разьбіральніцтва выявіліся шматлікія супярэчнасьці паміж паказаньнямі сьведак, якія сцьвярджалі, нібыта Сяргей Каваленка лаяўся матам у будынку інспэкцыі па выкананьні пакараньняў. Яны па-рознаму апісалі характар, месца, акалічнасьці правапарушэньня, якое быццам бы зьдзейсьніў сябра апазыцыйнай партыі. На ўсё гэта паспрабаваў зьвярнуць увагу судзьдзі адвакат Пётар Каваленка, які заявіў, што віна актывіста не даказаная. Але судзьдзя засталася глухой да ягоных аргумэнтаў.

Заля суду ледзь умясьціла ўсіх ахвотных прысутнічаць на працэсе, дык што падчас перапынку судзьдзя нават загадала прынесьці ў залю дадатковыя лаўкі. Падтрымаць Сяргея Каваленку ў суд прыйшлі некалькі дзясяткаў чалавек - актывісты грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў, сябры палітычных партыяў, праваабаронцы, журналісты. Зьяўленьне актывіста яны сустрэлі воклічамі “Жыве Беларусь!”

Сяргей Каваленка трымаўся ў судзе ўпэўнена, даводзячы сваю невінаватасьць. Хаця было бачна, як няпроста яму гэта даецца. Галадоўка, якую актывіст трымаў 25-ты дзень, спрычынілася да таго, што яму цяжка было гаварыць, выглядаў ён змучаным, вельмі схуднеў. Асаблівую занепакоенасьць станам сына выказала маці Сяргея Лідзія Каваленка. “Сэрца разрываецца, калі бачыш, як забіваюць майго сына,” - заявіла яна. На яе думку, разам з уколамі глюкозы, якія робяць актывісту ў СІЗА, яму, мабыць, уводзяць нейкі наркотык або псыхатропнае рэчыва.

Сам Сяргей Каваленка ў судзе скардзіўся на млявасьць, болі ў



сэрцы, галавакружэньне. Двойчы яму выклікалі лекараў, і судовае паседжаньне перапынялася. Аднак мэдыкі прызналі стан Сяргея Каваленкі здавальняючым і далі заключэньне, што ён можа працягваць знаходзіцца ў судзе, а па яго заканчэньні - утрымлівацца ў СІЗА.

Сяргей Каваленка зьмешчаны ў СІЗА на час сьледзтва па крымінальнай справе, узбуджанай супраць яго паводле артыкулу 415 Крымінальнага кодэксу (ухіленьне ад адбыцьця пакараньня). Абвінаваўчы прысуд па адміністрацыйнай справе, вынесены 12 студзеня, “пацьвярджае факт” чаргавага “парушэньня рэжыму” з боку Каваленкі і можа спрычыніцца да замены “хатняй хіміі”, якую цяпер адбывае актывіст, больш жорсткім пакараньнем. Яму пагражае да трох гадоў турэмнага зьняволеньня.

Сяргей Каваленка знаходзіцца на т.зв. “хатняй хіміі” (абмежаваньне волі без накіраваньня ва ўстанову адкрытага тыпу) за тое, што ў студзені 2010 году залез на галоўную ёлку Віцебску і прымацаваў на яе верхавіне бел-чырвона-белы сьцяг. Улады кваліфікавалі гэты ўчынак актывіста як “наўмысныя дзеяньні, якія груба парушаюць грамадзкі парадак і выказваюць яўную непавагу да грамадства”.

Дарэчы, аналягічны выпадак, толькі без палітычнага падтэксту, адбыўся сёлета. Паводле паведамленьняў мэдыяў, увечары 1 студзеня нейкі грамадзянін забраўся на вяршаліну 20-мэтровай ёлкі ў цэнтры Салігорску. Адтуль ён крычаў, што ён Дзед Мароз, лаяўся. На заклікі міліцыянтаў хлопец, які быў п'яны, не рэагаваў і спусьціўся толькі тады, калі прыехала машына МНС. Свавольніка ня сталі абвінавачваць паводле 339-га (як Каваленку) або якога-небудзь іншага артыкулу Крымінальнага кодэксу. На яго толькі склалі пратакол за адміністрацыйнае правапарушэньне - дробнае хуліганства. Выходзіць, зусім па-рознаму кваліфікуючы падобныя паміж сабой дзеяньні, улады фактычна прызналі, што ранейшы прысуд у дачыненьні да Сяргея Каваленкі быў палітычна матываваным: насамрэч яго асудзілі не за тое, што ён узьлез на ёлку, а за ўзьняцьце над ёй нацыянальнага сьцягу?

# Крыніца ў калёніі «Віцьба-3»: Саньнікаву ствараюць невыносныя ўмовы



Нават пасьля выхаду з ПКТ палітвязьня працягваюць трымаць у поўнай ізаляцыі. Аб становішчы, у якім зараз знаходзіцца кандыдат у прэзыдэнты Андрэй Саньнікаў, сайту charter97.org паведаміла крыніца ў калёніі «Віцьба-3», дзе ў цяперашні час утрымліваецца палітвязень.

«Андрэя Саньнікава перавялі з ПКТ (памяшканьня камэрнага тыпу) у атрад на пачатку студзеня. Ён выглядаў вельмі змучаным. Па распараджэньні адміністрацыі, да яго адразу ж сталі ўжывацца «зонаўскія» законы, якія існуюць з 20-30-х гадоў (іх прытрымліваюцца нават у калёніях для «першаходак», хоць і ня так жорстка, як у тых, дзе сядзяць ня першы тэрмін), і начальства турмаў і зонаў іх падтрымлівае, каб пры дапамозе адных «зэкаў» кіраваць іншымі. Падрабязнасьці распавядаць ня буду, але тут было зроблена ўсё для таго, каб пры дапамозе «зэкаў» стварыць для Саньнікава невыносныя ўмовы. Але зьняволеныя, якія зь вельмі вялікай павагай ставяцца да Саньнікава, і якія былі вельмі абураныя брудным сюжэтам пра яго па ТБ, сталі яго падтрымліваць. У выніку некалькіх зьняволеных, якія адкрыта яго падтрымлівалі і ішлі на УДВ (умоўна-датэрміновае вызваленьне) папярэдзілі, што яны будуць сядзець ад званка да званка, а гэта яшчэ кожнаму па некалькі гадоў. Аднаго, які вельмі актыўна падтрымліваў Саньнікава, адправілі па этапе, па чутках, у іншую калёнію. Усіх зэкаў папярэдзілі: калі скажуць хоць слова Саньнікаву, будуць жорстка пакараныя.

Каля Саньнікава ўтварылі вакуўм, але людзі ўсё роўна спрабуюць яго падтрымаць. Сам Саньнікаў прасіў зьняволеных не падыходзіць да яго і не размаўляць, патлумачыў, што ня хоча нікога падстаўляць. Ён знаходзіцца ў поўнай ізаляцыі, побач зь ім дазваляюць быць толькі некалькім стукачам і правакатарам. Зьняволеныя даведаліся, што Саньнікава папярэдзілі: калі будзе «ўзнікаць», скардзіцца і распавядаць каму-небудзь, што зь ім адбываецца, то яго зьмесьцяць у самую халодную і дрэнную камэру. Зьняволеныя кажуць, што страшна ўявіць, што зь ім рабілі да гэтага, і што Саньнікава трэба з «зоны» выцягваць любымі шляхамі. Зьняволеныя лічаць, што ўсе інструкцыі ў дачыненьні да Саньнікава прыходзяць «зьверху», - паведаміла крыніца.

25 студзеня стала вядома, што пад катаваньнямі і пагрозамі Андрэя Саньнікава прымусілі падпісаць прашэньне аб памілаваньні. Палітвязьня трымалі ў камэры-адзіночцы, падвяргаючы зьдзекам, пры гэтым пагражалі забіць ягоных жонку і сына.

# У ААН накіраваная просьба расьсьледаваць інфармацыю аб прымяненьні катаваньняў да Андрэя Саньнікава

Спэцдакладчыку ААН па катаваньнях накіраваная скарга з просьбай расьсьледаваць інфармацыю аб прымяненьні катаваньняў да экс-кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі Андрэя Саньнікава. Як паведаміў Аляксандар Атрошчанкаў, былы прэс-сакратар Саньнікава на выбарах 2010 году, гаворка ідзе пра тэрміновую скаргу. Тэрміновыя скаргі падаюцца ў тым выпадку, калі патрабуецца неадкладнае ўмяшаньне. “Перавага такога віду скаргі ў тым, што для яе падачы няма неабходнасьці спачатку выкарыстоўваць усе ўнутраныя мэханізмы абароны, зьвяртацца ў нацыянальныя суды і праваахоўныя органы", — растлумачыў Атрошчанкаў.

Падставай для скаргі па справе Саньнікава стаў той факт, што амаль тры месяцы да палітзьняволенага не пускалі адвакатаў, каля чатырох месяцаў яго ня бачылі сваякі. На думку аўтараў скаргі, такім чынам адміністрацыя калёніі магла ўтаіць сьляды катаваньняў у дачыненьні да экс-кандыдата. Паводле слоў Атрошчанкава, пасьля паступленьня тэрміновай скаргі спэцдакладчык ААН па катаваньнях, у адпаведнасьці зь дзейснай працэдурай, павінен накіраваць тэрміновы запыт у Міністэрства замежных спраў краіны, адкуль яна паступіла. “МЗС павінен заняцца расьсьледаваньнем сытуацыі і праінфармаваць пра вынікі спэцдакладчыка, а спэцдакладчык інфармуе пра вынікі праверкі тых, хто накіраваў скаргу", — сказаў Атрошчанкаў. Такі мэханізм зьяўляецца досыць дзейным для спыненьня катаваньняў, дадаў ён.




# ДАІ палюе на «Віцебскі кур'ер»

Увечары 13 студзеня машыну рэдактара «Віцебскага кур'еру» Алега Баршчэўскага затрымалі супрацоўнікі ДАІ. За рулём знаходзілася журналістка газэты Юлія Канаплёва. Праваахоўнікі склалі 2 адміністрацыйныя пратаколы: за нібыта брудны нумар (хаця быў моцны сьнегапад), а таксама за нібыта пратэрмінаваны часовы талён (пасьля суду справу працягнулі на месяц замест належных 2-х і зусім не перагледзелі яе).

Прычына чапляньня ДАІшнікаў - расчараваньне, якое яны не імкнуліся схаваць: яны чакалі ўбачыць у салёне аўто наклад чарговага нумару «Віцебскага кур'еру», аднак цалкам абсьледаваўшы машыну і нічога не знайшоўшы, сталі прымяняць уладу. Наклад - 10 000 асобнікаў - знаходзіўся ў іншай машыне, за рулём якой быў дырэктар «Віцебскага кур'еру» Віктар Рамнёў. Машыну затрымлівалі з пагоняй, пад'ехаўшы ззаду з уключанымі мігалкамі. Гэта адбылося каля пасёлку Вароны, за 10 кілямэтраў ад Віцебску. Пры гэтым затрыманьне зьдзяйсьнялі супрацоўнікі ДАІ, але агульную каардынацыю ажыцьцяўлялі мужчыны зь серабрыстай газэлі.

Супрацоўнікі ДАІ забралі ў Юліі Канаплёвай пасьведчаньне кіроўцы, хаця пры гэткага кшталту парушэньнях адбіраецца толькі талён. Пасьля таго як прагучала фраза «сустрэнемся ў судзе», міліцыянты нібыта атрымалі арыентоўку, што падобнае аўто схавалася зь месца ДТЗ і кіроўцу трэба прайсьці ў РАУС.

Канаплёва прайсьці ў пастарунак без прад'яўленьня дакумэнтаў або арыентоўкі адмовілася. Тады ДАІшнікі прыгразілі, што выклічуць эвакуатар. Кіроўца зачынілася ў машыне і патэлефанавала па нумары 102. Міліцыянт выслухаўшы прычыну выкліку, прапанаваў патэлефанаваць па тэлефоне даверу МУС і прадыктаваў нумар. Пасля тэлефанаваньня ў міліцыю - супрацоўнікі ДАІ селі ў машыну і зьехалі, пры гэтым яны двойчы парушылі ПДР. Ад гэтай сустрэчы з супрацоўнікамі праваахоўных органаў засталося шмат доказаў для суду (відэа- і аўдыёзапісы).

У выніку машыну рэдактара пратрымалі 2 гадзіны і, канфіскаваўшы пасьведчаньне кіроўцы, выпісалі часовае. А машыну з накладам затрымалі амаль на 4 гадзіны, пасьля чаго аўтамабіль паставілі на штраф-стаянку і не аддалі, спаслаўшыся на начны час, прапанаваўшы забраць яе толькі ў аўторак.

# Вярхоўны суд палічыў вырак Паўлу Севярынцу справядлівым



Вярхоўны суд Беларусі палічыў законным і справядлівым прысуд, вынесены 16 траўня 2011 году сустаршыні аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя" Паўлу Севярынцу. Пра гэта маці палітвязьня Тацьцяне паведаміў яго адвакат Вадзім Мушынскі. "Зараз мы разглядаем магчымасьць разгляду гэтай справы ў міжнародных інстанцыях", - адзначыла Тацьцяна Севярынец.

# Былога марскога афіцэра Пятра Іванова пакаралі за "мацюкі"



Са спазьненьнем у паўтары гадзіны распачалося 27 студзеня ў Кастрычніцкім райсудзе Віцебску чарговае судовае паседжаньне па справе Пятра Іванова. Чакалі сьведку з боку абвінавачаньня - міліцыянта, які складаў пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні і адпраўляў актывіста ў ізалятар часовага ўтрыманьня, дзе ён правёў трое сутак.

Нарэшце прадстаўнік праваахоўных органаў Максім Семушэнка зьявіўся ў судзе. І менавіта зь яго апытаньня пачалося разьбіральніцтва. Падчас гэтага судовага дзеяньня, якое доўжылася досыць працяглы час, на большасьць пытаньняў, зададзеных Пятром Івановым і ягоным адвакатам, міліцыянт адказваў адным і тым жа сказам: "Я ня памятаю," - гэтая фраза з вуснаў праваахоўніка прагучала ў залі суду некалькі дзясяткаў разоў.

Нягледзячы на "прыступ амнэзіі", які раптоўна апанаваў сьведку, у ходзе яго апытаньня высьветліліся цікавыя падрабязнасьці, датычныя акалічнасьцяў затрыманьня і далейшага зьмяшчэньня ў ІЧУ віцебскага актывіста. Паводле словаў міліцыянта, ён сам ня чуў, як Пётар Іваноў лаяўся матам, а напісаў пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні на падставе рапарту і пратаколу аб адміністрацыйным затрыманьні, складзенымі супрацоўнікамі патрульна-паставой службы.

"Калі быў складзены пратакол аб тым, што я нецэнзурна выражаўся?" - пацікавіўся ў судзе ў міліцыянта афіцэр у адстаўцы. "6 сьнежня", - адказаў той. "Чаму ж тады я зрабіў запіс у пратаколе - і гэта пазначана - 9-га чысла?" - "Бо вы ня сталі падпісваць пратакол у дзень затрыманьня". - "Чаму, калі я адмовіўся падпісваць пратакол, гэта ніяк не зафіксавана? Чаму ў пратаколе няма ні вашага подпісу, ні подпісаў сьведак, што я адмовіўся падпісваць пратакол?" - "А вы не адмовіліся. Сказалі, што зробіце гэта пазьней". - "На якой жа падставе тады мяне адправілі ў ІЧУ, без належнага афармленьня папераў? Хіба мяне прынялі б у ізалятар часовага ўтрыманьня, калі б ім не былі перададзеныя адпаведныя дакумэнты?" - гэтае пытаньне засталося без уцямнага адказу сьведкі-міліцыянта. "Але ж вы і хлус!" - ня вытрымаў напрыканцы апытаньня прадстаўніка міліцыі Пётар Іваноў.

Пытаньні наконт даты складаньня пратаколу аб адміністрацыйным правапарушэньні Пётар Іваноў задаваў невыпадкова. Рэч у тым, што, як сьцьвярджае актывіст, пасьля затрыманьня на яго быў складзены іншы пратакол - яго затрымалі за тое, што ён распаўсюджваў улёткі, праз якія заклікаў грамадзян да ўдзелу ў нібыта проціпраўным дзеяньні.

Потым праваахоўнікі самі зразумелі недарэчнасьць абвінавачаньня, выстаўленага актывісту: заклік прыйсьці ў суд - у дзяржаўную ўстанову - на адкрыты працэс Сяргея Каваленкі, каб там падтрымаць апазыцыянэра, ніяк ня можа разглядацца як заклік да ўдзелу ў незаконным мерапрыемстве. Таму, на думку Іванова, міліцыянты і вымушаныя былі прыдумаць новую падставу для яго затрыманьня. Яны сфабрыкавалі новы пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні, пазначыўшы яго заднім днём - нібыта ён быў складзены 6 студзеня. Насамрэч гэты дакумэнт актывіст упершыню убачыў толькі 9 студзеня. Складзены ён са шматлікімі парушэньнямі, таму ня можа разглядацца ў судзе ў якасьці доказу віны - заявіў у судзе Пётар Іваноў.

Пра тое, што факт правапарушэньня так і ня быў пацьверджаны верагоднымі доказамі, заявіў і адвакат. Ён таксама нагадаў пра супярэчнасьці ў паказаньнях сьведак, заслуханых падчас першага судовага паседжаньня, якое адбылося 16 студзеня. Тады сьведкі - міліцыянты, якія затрымлівалі Іванова - блыталіся ў сваіх аповедах, па-рознаму апісвалі абставіны зьдзяйсьненьня правапарушэньня. "Паколькі ёсьць сумненьні, гэтыя сумненьні мусяць быць на карысьць асобы, у дачыненьні якой вядзецца судовы працэс", - падкрэсьліў адвакат і заклікаў судзьдзю прызнаць Пятра Іванова невінаватым.

Выслухаўшы ўдзельнікаў судовага працэсу, судзьдзя Інна Грабоўская тут жа, без усялякага перапынку, абвясьціла рашэньне. Яна вынесла адстаўному афіцэру абвінаваўчы прысуд і пакарала яго штрафам у памеры 140 000 тысяч рублёў - 4 базавыя велічыні. Ганебным назваў гэтае рашэньне Пётар Іваноў. "Але я ня бачу віны судзьдзі, бо яна толькі вінцік у гэтай сыстэме", - сказаў актывіст па заканчэньні суду. Ён заявіў, што мае намер абскардзіць рашэньне, прынятае судзьдзёй Грабоўскай.

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.